Цана асобнага нумару 10 гр. | Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 46. | Вільня, Субота 18 Сьнежня 1926 г. | Год II

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

Выходзе два разы ў тыдзень — у сераду і ў суботу нараніцы.

Адрас Рэдакцыі й Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, ПОЛАЦКАЯ 4. — (WILNO, POŁOCKA 4). Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята. Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

**Падпіска:** на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал. Для заграніцы у двая даражэй. Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі

**Цана абвестак:** на 1-ай старонцы 30 гр., 2 і 3-яй — 25 гр. і на 4-ай — 20 гр. за радок дробнага друку у ваднэй палосцы. Жадаючыя іншых абвестак павінны зьвярнуцца да Адміністрацыі.

## СУСЬВЕТНЫ МІР.

Апошняя эўропэйская вайна, што забрала на той сьвет міліёны маладых, поўных сілы й энэргіі людзёў, што абяздоліла міліёны сем'яў, што спусташыла сотні тысячаў квадратных вёрст абшару і давяла ўсе ваюючыя краі да галіты, эпідэміі і галоднай сьмерці, — прымусіла ўрады істнуючых дзяржаў падумаць аб тым, каб больш не дапусьціць да такой вайны, а мо' яшчэ горшай. Вэрсальскі Трактат, які быў вынікам апошняй вайны, заключае ў сабе пэўныя пункты, якія маюць на мэце спыненьне аружнага вырашаньня спрэчак паміж дзяржавамі.

Як рэзультат гэтых пунктаў узьнікла Ліга Народаў, якая хацела-б недапусьціць да новай вайны. У першым складзе Лігі Народаў пераможную ролю адыгравалі Англія й Францыя. Дзьве гэтыя дзяржавы амаль-што ня самі камандавалі Лігай. Аднак гэтыя павадыры Лігі, пасьля нейкага часу пераканаліся, што ім самім трудна будзе ўтрымаць супакой у Эўропе, бо з другога боку, з боку варожага Лізе Народаў, апынуліся дзьве вялікія дзяржавы—Нямеччына і Расея. Пры такім падзеле сіл: з аднаго боку Англія і Францыя, а з другога Нямеччына і Расея, ня было пэўнасьці, што пастановы Лігі Народаў будуць выконвацца іншымі, а перадусім Нямеччынай. Жыцьцё якраз прыносіць з сабой факты, гаворачыя аб тым, што Вэрсальскі Трактат Нямеччына ня можа выканаць. Тут трэба было або сілай прымушаць Нямеччыну выконваць гэты трактат, або пайсьці на ўступкі. Ліга Народаў выбрала апошнюю дарогу, а Англія якраз была першай дзяржавай, якая пачала прызнаваць уступкі Нямеччыне. Такую палітыку Англіі лёгка зразумець. Англія пабачыла, што толькі з адной Францыяй яна не патрапіць утрымаць супакой у Эўропе, бо Нямеччына зьяўляецца сілай, з якой нельга ня лічыцца. Апрача таго, на зьмену палітыкі Англіі адносна Нямеччыны, меў уплыў яшчэ іншы дзейнік. Гэтым дзейнікам зьяўляецца істнаваньне соцыялістычнае дзяржавы СССР. Палітыка гэтай дзяржавы скіравана проці ўсіх істнучых буржуазных дзяржаваў, а перадусім проці Англіі. Выдаючы вялізарныя сумы грошы на рэалізацыю сваей замежнай палітыкі, урад СССР пачаў рабіць Англіі балючыя няпрыемнасьці на далёкім усходзе (ў Азіі). Вось гэта прымусіла Англію ўцягнуць да супрацы ў Лізе Народаў Нямеччыну, каб Нямеччына ня толькі не пайшла з СССР, але наадварот, разам з Англіяй была праціўніцай палітыкі маскоўскага ўраду.

Англіі ўдалося дапяць свае мэты прыняць Нямеччыну ў сябры Лігі Народаў. У сувязі з гэтым мяняюцца ў Эўропе адносіны сіл. Павадырамі эўропэйскай палітыкі робяцца Нямеччына й Англія; Францыя, хаця й разам з імі йдзе, але з прычыны заўсёдных яе спрэчных інтарэсаў з Нямеччынай, значэньне яе (Францыі) зьменшаецца, бо Англія перахіляецца на старану Нямеччыны. Доказам гэтага зьяўляецца апошняя скасаваньне ваеннага кантролю над Нямеччынай.

Паўстае цяпер пытаньне, ці ў сувязі з новым духам эўрапэйскай палітыкі, які пачаўся ад дагавораў у Лёкарно, які ўцягвае Нямеччыну ў Лігу Народаў, мае наступіць вечны мір? Ёсьць ведама, не. Вечны мір не наступіць, бо меж самымі сябрамі Лігі Народаў будуць заўсёды спрэчныя інтарэсы. Нямеччына не пагодзіцца ніколі з Вэрсальскім трактатам, а калі-б на'т ня мела яна спрэчак аб граніцы з Францыяй, то ніколі не пагодзіцца на цяперашнія граніцы з Польшчаю. А ці Польшча згодзіцца без вайны зьмяніць свае граніцы на карысьць Нямеччыны, гэта яшчэ вялікая пытаньне.

Незалежна ад гэтых спрэчных інтарэсаў паміж буржуазнымі дзяржавамі маем яшчэ палітыку СССР, якая йдзе проці Лігі Народаў. Усе пастановы Лігі адносна СССР ня могуць быць споўнены маскоўскім урадам, тут патрэбна толькі сіла аружжа.

Апрача вышэй паданых прычын магчымасьці вайны, ёсьць яшчэ адна прычына —гэта незрэалізаваньне ідэі аб самаазначэньні народаў. Дагэтуль шмат народаў ня маюць свайго незалежнага істнаваньня, дагэтуль гэтыя народы прыціскаюцца і знаходзяцца ў няволі ў іншых народаў. Гэткім падняволеным народам зьўляемся й мы —Беларусы. Нас ціснуць з усіх бакоў і ў кожнай частцы падзеленай Беларусі. Такая самая доля спаткала і Украінцаў, ды ёсьць яшчэ Каталёнцы і іншыя народы, якія імкнуцца да свае незалежнасьці. Гэтыя незалежніцкія імкненьні ў першую чаргу выкарыстовае палітыка СССР, якая сваім спрытам іграе на нэрвах іншым буржуазным дзяржавам і, у сваім канечным выніку, можа давясьці да ваеннай завярухі.

Але рэзультатам такой завярухі будзе рэалізацыя ідэі на самаазначэньне народаў —Беларуская Народная Рэспубліка.

*А. Незалежнік.*

## Падатковыя цяжары.

Кожная дзяржава ёсьць арганізаваная на тых ці іншых асновах адзінак, якая, каб спраўна функцыянаваць, мусіць мець матэр'яльныя сродкі на самыя розныя патрэбы: утрыманьне адміністрацыі, судоў, войска, будоўлю зялезных дарог утрыманьне школы, пошты, тэлеграфу і г. д. Гэтыя сродкі яна мусіць браць са сваіх жыхароў, бо Бог з неба нічога ня скіне.

Паўстаець пытаньне, ці са ўсіх браць ці не, пароўну браць ці з аднаго больш, а з другога меньш, ці браць у форме простага (беспасярэдняга) падатку, ці ў форме рожных акцызаў (падатак пасярэдні).

Цяпер на зямлі мы маем дзяржавы буржуазныя й адну соцыялістычную дзяржаву, гэта СССР. ці як у нас кажуць, Савецкая Расея.

У буржуазных дзяржавах падаткі беспасярэднія, як і пасярэднія плацяць ўсе жыхары: і буржуі, і селяне, і работнікі, а пасярэдні нават і жабракі, бо й ім часамі патрэбна запалка, або фунт газы. Прычым акцызы (пасярэднія падаткі) ўсім сваім цяжарам ложацца на плечы селяніна і работніка, бо багатыя людзі могуць абысьціся , напрыклад, і бяз газы — яны маюць электрычнасьць, ім і іншых акцызных тавараў менш трэба, больш ужываюць збытковых тавараў. Найбольш даходу буржуазная дзяржава атрымлівае з акцызаў, ці іначай кажучы з сялян і работнікаў.

Што датычыць беспасярэдніх падаткаў на зямлю, на дамы і даходы з гандлю і прамысловасьці, то й ад іх прыходзіцца часаць бакі селяніну і работніку, а не прамыслоўцу і гандляру, бо ў прамыслоўца ці абшарніка-пана ня прададуць падушкі за падатак, як робяць з селянінам. Абшарнік і прамысловец заўсёды мае ня толькі кавалак мяса але й шампанскае, а селянін астатняга кабана вязець на рынак на падаткі, а сам косіць у летку аб цыбулі і камах (бульбяной кашы). Аб самаўрадавых падатках няма чаго й гаварыць. Там ідзе ўжо зьдзіраньне скуры з селяніна: плаці ад ўсяго нават ад сабакі. Хутка дойдзе да падатку ад курыцы. Тагды і выйдзе: селянін плаці падатак ад курыцы, а яйкі прадай каб заплаціць другія падаткі, буржуй наагул, жыхар места, еш яйкі. Выйдзе якраз так, як было падчас вайны калі аўстрыяцкія салдаты адбіралі ў беларуса сьвіньню й давалі яму распіску, пісаную панямецку так: „Табе распіска, а нам сьвіньня".

Такім чынам, у нас і выходзіць, што у буржуазных дзяржавах, асабліва ў Польшчы ролі падзеляны: селянін плаці падаткі, а львіную частку карысьці з іх маюць не сяляне, а буржуазна-абшарніцкая кляса. Найбольш ад такога парадку церпім мы Беларусы, бо нават ня маем роднае школы, а зямлю дастаюць асаднікі. З гэткімі парадкамі Сялянскі Саюз ніколі не пагодзіцца і мусіць вясьці заядлую барацьбу за іх радыкальную зьмену на карысьць сялянства і наагул працоўных масаў.

Каб лепш бачыць, якіх зьменаў у гэтай частцы дзяржаўнага жыцьця, сяляне ня толькі ў Польшчы, але на цэлым сьвеце мусяць дабівацца свайго. Разгледзім, якія падаткі плаціць сялянства ў соцыялістычнай дзяржаве якой ёсьць СССР.

У гэтай дзяржаве ўлада знаходзіцца ў руках пралетарыята, хоць і называецца работніцка-сялянскай. Буржуазыі там, можна сказаць, няма, але калі нават дапусьціць, што яна і там ёсьць, дык яна там ня мае ніякае вагі ў дзяржаўным жыцьці, бо да ўлады не дапушчана. Калі буржуязыя не дапушчана да ўлады, дык застаюцца сяляне і работнікі якія мусяць кіраваць жыцьцём дзяржавы. Яны мусяць дзяліць паміж сабою ня толькі ўладу (кіраваць выдаткамі і даходамі), ці інача кажучы правы, але і абавязкі, бо без абавязкаў ня можа быць праву. Гэтыя дзьве клясы ў роўнай меры, працуючыя, паводле нашага зразуменьня і праграмы, павінны адзінакава й карыстацца з вялікай іх працы. Аб тым, якія адносіны ў соцыялістычнай дзяржаве паміж правамі і абавязкамі сялян з аднаго боку і пралетарыятам з другога, скажэмо ў наступным нумары.

*В. Рагуля*, пас. Сойму.

ларускіх паслоў. Але замест кары, як відаць, чакае напасьнікаў нагарода за польскі патрыятызм.

### „Грамада“ хоча пагадзіцца з польскімі ўладамі.

„Наша Справа“ ў № 6 перадавіцы пад загалоўкам „Новы курс“ выказвае сваю ахвоту паразумецца з польскімі ўладамі. Выразна аб гэтым сьведчаць ніжэй паданыя сказы перадавіцы:

„Калі-б польскі ўрад хацеў запраўднага паразуменьня з Беларусамі й запраўды маніўся „зьмяніць курс“ сваей нацыянальнай палітыкі ў адносінах да нас, дык ён — натуральна—мусіў-бы пачаць перагаворы з тэй народнай арганізацыяй, якая фактычна абыймае ўсе жывыя й свядомыя элемэнты сялянскае і работніцкае Беларусі. Але на гэта польскі фашызм пайсьці ня можа!„

Вось гэтыя сказы зьяўляюцца новым доказам патаемных уплываў у „Грамадзе“.

У нумары 3-цім „Н. Справа“ пісала, што найлепш ісьці пад сьцягам ССРР., а ў 6-тым хоча паразумецца з польскім урадам.

### Працэс 22-х у Горадні.

У суботу 11 сьнежня с. г. ў Акружным судзе ў Горадні адбыўся працэс 22 вінавачаных у камунізьме. Справа разбіралася пры зачыненых дзьверах. У часе разбору абвінавачаныя зрабілі маніфэстацыю. Сярод абвінавачаных частку звольнілі, а 12 асоб засудзілі ад 2 да 6 гадоў вастрогу.

## З Радавае Беларусі.

### Акадэмічная канфэрэнцыя ў Менску.

17 сёлетняга сьнежня ў Менску адбылася акадэмічная канфэрэнцыя. Першы даклад зрабіў Язэп Лёсік у справе рэформы беларускага правапісу. Апрача яго дакладалі гр. Н. Некрашэвіч, праф. Бузук, праф. Расторгуеў і інш. Па дыскусыях, у якіх забіралі голас праф. Фасмэр, гр. Ластоўскі, гр. Жылуновіч і іншыя, справа была перададзена ў адмысловую камісыю, каторая прыняла такую рэзалюцыю:

1) Увясьці для абазначэньня гукаў дз і дж адпаведныя літары з сэрбскае азбукі.

2) Увясьці літэру ёт у пачатку й канцы словаў.

3) Захаваць аканьне па правапісу Тарашкевіча з некаторымі папраўкамі. У другім складзе перад націскам, а таксама ў словах *НЕ* й *БЕЗ* літара *Е* не падлягае аканьню.

4) У чужаземных словах замест ненаціскавага *О* пішацца *А*.

5) Замест нескладовага *Й*, калі яно стаіць у пачатку слова, ці асобна, пішацца *I*.

## Прысылайце грошы на падпіску.

## З Незалежнае Літвы.

### Літоўскі ваенны міністр аб літоўскай арміі.

Газэта „Kelias“ падае выведы свайго карэспандэнта з ваенным міністрам Літвы Рапэчкісам, які сказаў, што літоўская армія мае добрую арганізацыю, дысцыпліну й таксама добра вымуштравана. Не байца яна ані камуністычнай агітацыі, ані шаблі польскай і заўсёды прыгатавана даць адбой усялякім напасьцямі.

Угода з ССРР. умацавала палажэньне Літвы і цяпер з ей лічацца суседзі. Нарэшце сказаў, што Літва мае мірныя імкненьні.

### Аб Літоўска-радавым трактаце.

Амэрыканская літоўская газэта „Draŭgas“ дня 11 г. сьнежня агаварывала вялікую карысьць для Нямеччыны, Расеі і Літвы савецкалітоўскага трактату. Пры тым газэта зазначае, што праз гэты трактат Польшча засталася адзеленай і мае меншую магчымасьць нападу на Літву.

## З Польшчы.

### У СОЙМЕ.

14.XII с. г. адбылося паседжаньне Сойму, на якім польская большасьць прыняла бюджэт на першую квадру 1927 г. ў той форме, у якой хацеў урад.

Проціў бюджэту выступалі нацыянальныя меньшасьці.

Ад Беларускага Пасольскага Клюбу выступаў старшыня, пасол Ф. Ярэміч і сказаў прамову проці прыняцьця бюджэту.

### З Адміністрацыйнае Камісыі.

У сераду адбылося паседжаньне адміністрацыйнае камісыі Сойму. Камісыя разглядала прапазыцыю ў справе нападу на паслоў. У камісыі пераважалі думкі аб утварэньні адмысловай групы для дасьледу нападу на беларускіх паслоў і на п. Зьдзехоўскага. Аканчальна гэтая справа яшчэ ня вырашана.

Апрача гэтага Адміністрацыйная Камісыя прыняла ў справе „чорнага кабінэту“ на варшаўскскай тэлефоннай станцыі такую рэзалюцыю:

Прыймаючы да ведама справаздачу ўраду ў справе ўстановы для падслуханьня гутарак на тэлефонных станцыях, адміністрацыйная камісыя падае прапазыцыю, каб Сойм заклікаў урад зліквідаваць у найбліжэйшым часе станцыю для падслуханьня гутарак.

### Маршалак Трампчынскі проці ўраду.

Надовячы на паседжэньні асьветнай камісыі Сэнату сэнатар Каліноўскі (пяст), паведаміў сябром, што з прычыны адсутнасьці прадстаўнікоў ураду на паседжэньні ён выслаў да міністэрства асьветы запытаньне, чаму не з'явіліся ўрадавыя прадстаўнікі на паседжэньне. Дырэктар Жлабіцкі адказаў, што гэтая адсутнасьць ня прыпадкавая і што падрабязныя выясьненьні дасьць віцэпрэм'ер Бартэль. Калі п. Каліноўскі зьвярнуўся да маршалка Сэнату, Трампчынскага, апошні аб'яьсніў, што добра было-б каб на знак пратэсту камісыя выкінула нейкую суму з дыспазыцыйных крэдытаў бюджэту міністэрства. Пасьля дыскусыі было пастаноўлена прадраць паседжэньне камісыі.

„Kurjer Poranny“ піша, што ўрад не паслаў сваіх прадстаўнікоў на агульнае паседжане камісыі сэнату дзеля таго, што лічыць гэта непатрэбным, бо бюджэт павінен разглядацца толькі ў бюджэтнай камісыі.

### Загранічная пазыка.

З Варшавы наказуюць, што ўрад Пілсудскага вядзець гутаркі з амэрыканскімі капіталістамі ў справе пазыкі, і што ўжо нібы амэрыканцы згаджаюцца даць Польшчы пазыку на такія мэты: 1) на інвэстыцыі (будова дзяржаўных будынкаў, прадпрыемстваў і інш.); 2) на камунальныя (самаўрадавыя) пазыкі і 3) для прыватных прамысловых прадпрыемстваў.

### Забастоўка чугуншчыкаў.

У Варшаве 15.XII а 10 гадзіне забаставала 60 работнікаў залезнадарожных варстатаў, каторыя зажадалі ад Ураду прызнаньня ім грашовых дапамог.

Праз 15 мінут забастоўка скончылася, бо ўрад згадзіўся выслаць свайго прадстаўніка для перагавораў.

## Што дзеецца ў сьвеце?

### Аб зьнясеньню ваеннага кантролю над Нямеччынай.

*Парыскія газэты.*

„L'Avenir“ піша: Францыя пакпынулася калі зрабіла ўгоду ў Жэнэве. Цяпер доля Эўропы ляжыць у руках Немцаў. Для Польшчы і Італіі нічога іншага не астаецца, як пагадзіцца з Нямеччынай і парабіць з ёй дагаворы. „Pertinax“ і „Echo de Paris“ таксама гавора аб упадку Францыі праз угоду жэнэўскую. Толькі праз умяшаньне ў гэтую справу Пуанкарэ, каторы падказываў Брыяну, справа вывазу матэр'ялаў ваенных з Нямеччыны і будовы крэпасьцяў па ўваскодняй яе граніцы ня дала такіх наступстваў, якіх хацелі Немцы. Кантроль Лігі Народаў у Нямечыне будзе ад гэтага часу зусім слабы. Добра яшчэ, што ня была зацемлена справа Надрэніі. Лепш будзе калі Брыян болей ня будзе кіраваць замежнымі справамі Францыі.

*Бэрлінскія газэты.*

Вестка аб скасаваньні ваеннага кантролю праз Лігу Народаў выклікала ў бэрлінскіх палітычных колах вялікую пацеху.

„Berzenzeitung“ піша, што, Немцам няма чаго яшчэ цешыцца, але трэба адначыць, што ланцугі вэрсальскага трактату парваліся. Нямецкая дэлегацыя не варочаецца са з'езду з парожнымі рукамі.

— Наш, наш... — заякакалі „аднадньўкі“.

— Прарадзіцель наш прыйшоў — крыкнаў „Абух“...

І нехта вылаяўся, але голасна і праўдзівым „сьмярдзякоўскім“ стылем...

— А, а, а! — застагнаў залажыцель быццам раняны ў самое сэрцэ, схіліў галаву і заціх...

— А, а, а! — прастагналі й іншыя партрэты памершых беларускіх дзеячаў...

— А, а, а! — стогнам пранеслося па ўсей салі, кутках і полках...

І заварушылася, загудзела, зашалясьцела кіпа газэтаў і ўсе кінуліся адна на адну, як сарваўшыся з ланцугоў, сабакі, і пачалася барацьба... Зьмяшаліся тутка Кайны з Авелямі й застыглі ў сьмярцельнай схваціцы...

І калі пераможаныя Авелі пачалі ўжо слабець і гатовыя былі, як здавалася, аддацца на Кайнаў няведама скуль пачаўся магутны, як гром, голас:

— Трымайцеся, сыны мае праўдзівыя!...

— Усе закасьцянелі, быццам, замерлі... Залажыцель падняўся трасучыся, выцягнуў рукі нібыто на малітву, пасьля закрыў імі твар і паціху, паціху пачаў апушчацца на падлогу...

Першымі ачнуліся Авелі...

— А ці чуеш ты нас Бацька?! — закрычэлі яны...

— Чую, дзеткі, чую!... — грымеў голас.

— А ці ёсьць яшчэ праўдзівая сіла беларуская?

— Маема, дзеткі, маема!...

І стала ціха... як быццам і нічога ня было...

І кіпа ізноў заварушылася... качалася па падлозе абрудханая і, зьвіваючыся, як зьмяя, толькі храпела... Паасобныя нумары ў адзінку, а то па 2 па 3 неяк выскаквалі з гэтае схваткі й абдзёршыся і абрудханыя, ледзь дыхаючы, стараліся ўхіліцца ад непатрэбнае для нікога сваркі...

— А бадай яго! — выціраючы пот, выскачыла „Сялянская Ніва“ разам з „Krynicaj“—гэтаю „сьмердзякоўшчыну“ трэба гнаць зусім...

— І на векі вякоў!... — дадала „Krynica“.

— Аб'яднаньне, паны, толькі аб'яднаньне спасе нас — крычэла больш перапужаная як пакрыўджана „Хата“...

І толькі адны „Справы“, як быццам нічога, абмахваліся сабе хусткамі, як пасьля прыемнага шпацару на сьвежым паветры...

— А браты мае дарагія!... — падняўся з падлогі і плакаў залажыцель — і навошты я вас парадзіў!... Ну, ўсупакойцеся... Ну, пакіньце гэныя сваркі й спрэчкі... Ну, пагадзіцеся... Вось хутка ўжо і пятух запяе, дык разойдземся ў згодзе... і давайце пастарому пасьпеваем, як дагэтуль хор пяяў...

— Вось гэта правідлова — падхапіла „Сялянская Ніва“ — пасьпяваць трэба... Ну зацягвай Крыніца—ці што!...

— А чаму-ж Крыніца?! — запратэставалі „Справы“ — мы маем першыя галасы, дый скрыпка ў нас ёсьць...

— Ну вы, дык вы — ня ўсёроўна — гадзілася „Сялянская Ніва“...

„Справы“ адкашляліся і пачалі:

— „Уставай...

— Што?!... інтэрнацыянал?!... Ня трэба нам чужога — пачуліся галасы — давай сваё, народнае...

— Далоў чужое!!!

— Зацягвайце, грамадзяне: „ад веку мы спалі“ — падала „Сялянская Ніва“...

— Але... але... „ад веку мы спалі“ — крычэлі ўсе...

Тут „Справы“ пачалі ізноў спрэчкі.

— Што?!... — паднялася „Сялянская Ніва“ і з ёй ўсе беларускія Авелі...

— Бацька! А ці чуеш ты нас? — закрычэлі Авелі — ці ёсьць яшчэ праўдзівы дух беларускі?!...

— Маема, дзеткі, маема — данялося здалёку, але выразна...

— Маема!... — зашапталі партрэты...

— Ну калі маема, дык нічога страшнага— ўсё пераможам, — закрычэла „Сялянская Ніва“ — зацягвайма, грамадзяне, свой Народны Гімн...

І на ўвесь музэй разлалося: „Ад веку мы спалі і нас разбудзілі — казалі, што трэба біць“...

— Ну, дзякуй Богу — прашаптаў залажыцель — праўдзівы дух пераможа.

— Нацыянальны дух пераможа — прашапталі іншыя партрэты.

— Пераможа — як рэха адгукнулася саля...

І калі прапяялі пятухі й заглянуў ў вокны сьвет, толькі адны параскіданыя газэты выяўлялі, што тутка адбывалася нейкая барацьба беларускіх палітычных думак...

*Стары Хасень.*

„Berliner Tageblatt“. Спрэчка Англіі ў Лізе Народаў аб вывазе ваенных матэр'ялаў з Нямеччыны была ня столькі са страху мець сабе канкурэнта як з недаверу да Масквы. Чычэрын не напрасна прыяжджаў у Бэрлін, ягоны прыезд узялі пад увагу заходнія дзяржавы як развязывалі справу кантролю. Немцам трэба за гэта падзякаваць Чычэрыну.

### Англіцкі пагляд на сусьветны супакой.

Сябра англіцкай верхняй палаты лёрд Пармур выказаў свой пагляд на варункі сусьветнага супакою.

Вялікі поступ уперад проці будучай вайны зрабіў з'езд, каторы адбыўся ў Жэнэве.

Веру я, што пэўнасьці на гэты супакой у сьвеце ня будзе датуль, пакуль Англія, якая мае так вялікі ўплыў у Лізе Народаў, не пакажа сябе гатовай зрабіць відавочныя прапазыцыі й не дазнае патрэбы, што неабходна знайсьці агульную міжнародную форму кантролю. Мала карысьці паказываць на небясьпеку, якая ўзьнікае з прычыны ваенных прыгатаўленьняў. Гэтая небясьпека ўсім ведама.

Годнія ваенныя выдаткі Англіі перавышаюць у 1925/26 блізка на 54.845.000 ф. шт. перадваенныя выдаткі, а калі прыняць пад увагу вартасьць фунта штэрлінгаў, прырост выйдзе на 7.004.000 ф. шт. Лічбы гэтыя былі ўпісаны ў пратакол лёндонскім ваенным міністэрствам і паданы ў Лігу Народаў.

Бяз сумліву ўваход Нямеччыны ў Лігу Народаў азначае вялікі поступ у справе пацыфікацыі (супакою) Эўропы, а таксама ўзмацняе аўтарытэт Лігі. Уваход гэты быў наступствам дагавору ў Лёкарно, бо тады зьдзейсьнілася памірэньне двух адвечных ворагаў Нямеччыны і Францыі.

Далей лёрд сказаў, што Расея стаіць на перашкодзе супакою Эўропы. Пакуль Расея ня ўвойдзе ў Лігу Народаў датуль немагчыма зьменшыць ваенныя выдаткі.

### З Латвіі.

Прэзыдэнт Латыскай Рэспублікі прыняў павадыра соцыялістых. У сувязі з гэтым магчыма, што скора будзе ўтворана левая ўрадовая большасьць.

## СЯЛЯНЕ!

Аб усіх крыўдах, аб зьдзеках адміністрацыі і аб вашым жыцьці пішыце ў сваю газэту „Сялянскую Ніву“.

## Гаспадарскі аддзел.

### Аб новых спосабах польнай гаспадаркі.

(гл. № 45 „Сял. Нів.“).

Самі прасьцейшы і найлягчэйшы будзе пераход на чатырохпольле. Чацьвертае поле можа быць выдзелена з пад пасьвішча, карчавязяў, залегаў і іншых кавалкаў зямлі, якія надаюцца для пахаты. Калі лішней зямлі нямя, то чацьвертае поле можа быць выдзелена з трох палёў, якія ёсьць. Робіцца гэта так:

У той год, калі гаспадары пастанавілі перайсьці да новага спосабу гаспадаркі, гэта значыцца, калі замест трохпольля захацелі перайсьці на чатырохпольле з пасевамі кармовых траў, — яны (гаспадары) адбіваюць ад жытняга поля, з аднэй стараны кусок такой велічыні, каб у кожнага гаспадара адыйшла пад гэты кавалак адна чацьвертая частка яго жыта. Карацей кажучы, ад жытняга поля адбіваюць 1/4 частку ўсяго абшару. Вясной на большай палавіне (на 3/4) на жыце сеяцца канюшына адна ці з цімахвейкай. Гэтак сама робяць з папарным полем, ад якога адбіваюць 1/4 частку калі прыходзіць пара вазіць гной, то яго кладуць не на ўвесь папар, а толькі на большую частку (на 3/4 ). На рысунку гэта можна паказаць так:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| жыта з канюшынай | жыта без канюшыны | ярына | папар бяз гною | папар з гноем |

У восень, калі ўбіраецца хлеб, ярнае поле дзеляць папалам і адну палавіну яго дадаюць да таго куска, дзе было жыта без канюшыны й засеваюць на лета ярыной, а другую палавіну прыбаўляюць да куска папарнага поля, які бяз гною й пакідаюць яго пад папар. Гэткім парадкам на вясну замест трох палёў будзе чатыры.

Як далей будз вясьціся новая польная гаспадарка відаць з гэтай табліцы.

| гады | 1 поле | 2 поле | 3 поле | 4 поле |
|---|---|---|---|---|
| 1926 | жыта з канюшынай | жыта без канюшын. / ярына | ярына / папар бяз гною | папар з гноем |
| 1927 | канюшына 1-га году | ярына | папар | жыта без канюшыны |
| 1928 | канюшына 2-га году | папар | жыта в канюшынай | ярына пасьля жыта |
| 1929 | ярына пасьля канюшыны | жыта без канюшыны | канюшына 1-га году | папар |
| 1930 | папар | ярына пасьля жыта | канюшына 2-га году | жыта з канюшынай |
| 1931 | жыта без канюшыны | папар | ярына пасьля канюшыны | канюшына 1-га году |
| 1932 | ярына пасьля жыта | жыта з канюшынай | папар | канюшына 2-га году |
| 1933 | папар | канюшына 1-га году | жыта без канюшыны | ярына пасьля канюшыны |
| 1934 | жыта з канюшынай | канюшына 2-га году | ярына пасьля жыта | папар |

Цераз кожныя восем гадоў парадак пасеву збожжа й травы йзной варочаенца назад.

Безумоўна ў параўнаваньні з трохпольлем, чатырохпольле выгадней для гаспадаркі ў вялікі шмат разоў, і нам думаецца, што нават ня трэба гэтага даказаваць.

Праўда, пры ўсіх сваіх выгадах, чатырохпольле маець і свае недастачы перад другімі спосабамі. Недастачы яго такія, што ў адзін год уся канюшына бываець першага году, а ў другі ўся другога, а дзякуючы гэтаму ўраджай бываець не аднальковы, бо канюшына першага году даець больш травы, чым другога, хаця, калі сеяць канюшыну з цімахвейкай, то сена можа быць роўна; падругое, у адзін год усё ярнае поле бываець мяккое, вышаўшае з пад жыта, а ў другі год яно бываець цьвёрдае—з пад канюшыны. Ад гэтага ў адзін год на яравым полі, няма адпаведнага месца пад лён, які патрабуе цьвёрдай зямлі, а на другі год прыходзіцца распахаваць канюшынішча і пад ячмень і пад бульбу, што можа быць для гаспадара за цяжкавата. Дзеля гэтага болей выгадным будзе восьміпольле.

Пры васьміпольлі чарадаваньне пасеваў можа быць зусім такое, як і пры чатырохпольлі: кожны год пад папарам, жытам, ярынай і канюшынай па адной чацьвертай часьці ўсей пашні, толькі розьніца ў тым, што кожны год, ёсьць два полі папарных, два пад жытам, два пад ярыной і два пад канюшынай. Канюшына сеецца пры гэткім парадку ўжо не цераз год а штогод і засеваецца ей ня ўсе два жытніх полі а толькі адно. Выгада з васьміпольля тая, што канюшына бываець кожны год першага й другога году (два полі), так што сена будзе што год больш менш роўна; адно ярное поле пры васьміпольлі выходзіць з пад жыта мяккое па якім добра сеяць бульбу, ячмень, а другое цьвёрдае з пад канюшыны, на якім надта добра родзіць лён і авёс.

Апрача апісанага намі чатырохпольля і васьміпольля, могуць быць і другія севазвароты з пасевам кармовай травы: пяціпольле, шасьціпольле, дзесяціпольле і г. д. затрымлівацца на іх мы ня будзем, дзеля таго, што гэта заняло-б шмат часу й мейсца, ды й ўсе яны меней прыгодны для сялянскай гаспадаркі. Апісаныя намі севазвароты даўно ўжо заведзены ў шмат якіх мяйсцовасьцях у сялян, і там дзе селяне завялі іх адразу праканаліся ў іх выгаднасьці. Ураджаі хлеба ў іх надта павялічыліся. Яны перасталі займаць на старане па высокай цане сенажаці і сена, у іх ня толькі хапаець сваей скаціне, яле яшчэ і прадаецца. Зразумела, што пастаўленая на добры корм скаціна стала даваць значную карысьць гаспадарцы малаком і мясам; ды і самой скаціны прыбавілася. Адзін толькі лён, пасеяны на канюшыне, даець магчымасьць ня толькі заплаціць падаткі, але й набыць усё патрэбнае ў гаспадарцы.

Адным словам, там дзе сялянства адказалася ад старых аджыўшых свой век спосабаў гаспадараваньня й перайшло на новыя, там усюды яно вызвалілася з тэй беднаты і галіты, у якіх трымала іх трохпольле.

Дакуль-жа будзем цярпець мы!

*Я. Пачопка.*

## НАВІНЫ.

**— Пасол С. Баран на волі.** Паводле атрыманых вестак, пасол С. Баран з Беларускага Пасольскага Клюбу, які быў засуджаны ў 1923 годзе ў маі месяцы на Беластоцкім працэсе на 4 гады катаргі, ужо выпушчаны з вастрогу.

Пасол Баран адсядзеў 3 галы і 7 месяцаў, асталося яшчэ адсядзець 5 месяцаў. Аднак польская ўлада зрабіла „ласку“ і адлажыла (адсрочыла) гэтую 5-ці месячную кару на 5 гадоў.

**— Літоўскі зьезд у Сьвянцянах.** У Сьвянцянах акончыўся зьезд вучыцялёў літоўскага таварыства „Rytas“. Гэты зьезд трываў 2 дні. Абгаварываліся прафэсыянальныя справы літоўскіх вучыцялёў. Павадыром на з'езьдзе быў віленскі кс. Кайрукштіс.

З'езд прыняў рэзалюцыю, што кожны літоўскі вучыцель павінен выпісваць і пашыраць сярод народу літоўскія часопісі.

**— Новая літоўская часопісь.** „Słowo“ піша, што адміністрацыйная ўлада атрымала вестку, што ў Вільні скора выйдзе літоўская часопісь пад назовам „Vilniaus Varpas“ або „Віленскі Звон“.

**— Новая дэманстрацыя.** У Вільні на Лукіскім рынку 14-га сьнежня с. г. адбылася новая дэманстрацыя. Дэманстранты крычэлі проціў ураду Пілсудскага і дамагаліся звальненьня палітычных вязьняў. Уваружаная конная і пешая паліцыя ледзь справілася з дэмонстрантамі.

**— У справе матуральных экзаменаў у прыватных гімназіях.** Паводле распараджэньня мін. Бартля абсальвэнты гімназіяў, якія не маюць праў публічнасьці, могуць здаваць матуральныя экзамены перад адумысловымі Комісьямі ў сялібе сваіх школ. Распараджэньне гэта датычыць прыватных гімназіяў у беларускай, украінскай, нямецкай і польскай мове.

Абсольвэнты гімназіяў літоўскіх і жыдоўскіх павінны здаваць экзамены ў польскай мове.

**— Умова Польшчы з СССР і Літвой у справе мены вязьняў.** Кракоўская газэта „Ilustrowany Kurjer Codzienny“ 16.XII. падае вестку, што ее варшаўскі карэспандэнт даведаўся, што мае наступіць новая мена палітычнымі вязьнямі паміж Польшчай і СССР. Спіскі асобаў, якія будуць падлягаць гэтай мене ўжо прыгатаваны. Польшча мае выдаць СССР тых вязьняў, што асуджаны за камуністычныя забурэньні. СССР дасьць у замену за гэта Палякаў, што прысуджаны на двухгадовую адседку. На бліжэйшым паседжаньні рады міністраў справа будзе абгаворана аканчальна.

Таксама паднята справа палітычных вязьняў паміж Польшчай і Літвой. Гэтую справу бярэ на сябе Чырвоны Крыж і ўжо выслаў свайго прадстаўніка гр. Забароўскага да Жэнэвы. З боку Літвы будзе гр. Слюпас. Гутаркі ў Жэнэве меліся пачацца 15 сьнежня с. г. Абодва краі абменяюць па 40 палітычных вязьняў.

## НАШАЯ ПОШТА.

**Дасталі:**

Ад: Дуброўскай Паўліны 3 зл., Грышэля Янкі, Антона Махамэта, Ляскоўскага Ігн. — па 2 зл., Шоціка Тодара — 1 зл. 50 гр.

Усім новым падпішчыкам газэту пасылаем.

Колягу С., Савіцкаму Ул. — газэту пасылаем.

## БІРЖА.

Вільня, 16.XII.

ВАЛЮТЫ.

Даляры . . . . . . . . . . . . 8.98 зл.
Рублі зал. . . . . . . . . . . . 4.75½ „

ЗБОЖЖА І ЗЕМЛЯРОБ. ПРАДУКТЫ.

Жыта за 100 кг. (6 пуд.) . . . . . 42—43 зл.
Авес „ . . . . . 35—37 „
Ячмень брав. за 100 кг. . . . . . 41—42 „
„ на кашу „ . . . . . . . 37—39 „
Бульба . . . . „ . . . . . . . 7.50—8.00 „
Яйкі за 1 дзес. . . . . . . . . 2.50—2.60 „
Масла нясол, за 1 кг. . . . . . 7.00—7.80 „
„ солен. . . . . . . . . . 6.50—7.00 „

Ніколі ня зьніштажай сваей роднай газэты. Прачытаушы дай яе суседу.

Рэдактар і выдавец Л. Міцька. Беларуская Друкарня ім. Ф. Скарыны.—Вільня, Людвісарская 1.